


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 13 (184) ВЕРАСЕНЬ 2014 ГОДА

**Цытата нумара:**

*Прагрэс цывілізацыі палягае ў пашырэнні сферы дзеянняў, якія мы выконваем не думаючы*

*Альфрэд Уайтхэд*

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

# ЦІ НАВЕДАЕ АЛЯКСАНДР РЫГОРАВІЧ ДОМ №13?

**Добраўпарадкаванне Гарадка праходзіць міма двара дома №13 па вуліцы Савецкая каля Гарадоцкага райвыканкама. У гэтым доме пражываюць пераважна людзі сталага ўзросту, якія не маюць гаспадарчых пабудоў куды скласці дровы.**

Недахоп сродкаў на добраўпарадкаванне Гарадка да "Дажынак" адчуваецца не толькі па незавершанасці аб'ектаў да свята, але і па невырашанасці самых жыццёвых пытанняў для праблемных дамоў. Такім праблемным домам з'яўляецца 16-кватэрны дом 13 па вуліцы Савецкая, дзе адсутнічае цэнтралізаванае ацяпленне. Ад гіганцкіх сумаў, якія ідуць на добраўпарадкаванне, паляпшэнне жыллёвага фонду гэтаму дому амаль нічога не перападае апошнія пяцігодкі.

Адсутнасць цэнтралізаванага ацяплення вымушае жыхароў дома ацяпляць свае кватэры дравамі. Але пару гадоў назад гэта стала рабіць значна складаней, бо на пажары згарэлі дравянікі, у якіх захоўваліся дровы. Пабудова новых дравянікаў стала невырашальнай праблемай як для камунальнікаў, так і для Гарадоцкага райвыканкама з вокан якога добра бачны праблемы дома №13.

І калі падрыхтоўка да "Дажынак" прынесла шмат даброт райцэнтру, то жыхары гэтага дома на Савецкай засталіся сам на сам са сваёй праблемай. Першапачаткова, калі вялася гаворка пра падрыхтоўку Гарадка да рэспубліканскага свята, то хадзілі размовы, што дом знясуць, а жыхароў пераселяць у нармальны пяціпавярховік. Але гэтыя гэтыя намеры завіслі ў паветры і жыхары дома зноў з цяжкасцю чакаюць чарговай зімы.

Апошні раз да ўладаў яны звярталіся ў асобе ўжо былога галоўнага рэвізора Віцебшчыны Мікалая Дамашкевіча, які напрыканцы ліпеня праводзіў прыём у райвыканкаме. Але атрымалі чарговыя абяцанкі, што пытанне капітальнага рамонту дома магчыма будуць вырашаны ў 2015 годзе. Толькі да гэтага яшчэ трэба дажыць сталым жыхарам, якія шмат дзесяцігоддзяў свайго працоўнага жыцця аддалі краіне, а сёння спажываюць абыякавасць уладаў да сваёй жыццёвай праблемы.

Мо Аляксандр Рыгоравіч пад час наведвання гарадоцкіх "Дажынак" завітае ў двор дома 13 і тады пытанне з дравянікамі вырашыцца за тыдзень.

**Леанід Гаравы**

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

ПАМЯЦЬ

# ЗАНЯДБАНЫ МЕМАРЫЯЛ СПАЛЕНЫМ ВЁСКАМ

**Святкаванне 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашыскіх захопнікаў не стала для гародоцкіх чыноўнікаў падставай для добраўпарадкавання мемарыяла спаленым вёскам у Варабьёвых гарах**

Часам дзіву даешся ад абаякавасці нашых уладаў да культурна-гістарачнай спадчыны Гарадоцкага раёна. У прынцыпе, гэта і не дзіва, бо больш 15 гадоў раёнам кіруюць людзі, якіх прыслалі з іншых мясцін, у якіх галава баліць мусіць толькі за вытворчыя паказчыкі. Але без павагі да сваіх каранёў гэтыя паказчыкі становяцца толькі горшымі ўсе апошнія гады.

Скажу шчыра, не чакаў што ў занядбаным стане акажуцца помнікі ахвярам фашызму, якія размешчаны на пачатку Варабьёвых гор, якія яшчэ знаходзяцца ў межах Гарадка.

Калі летам мінулага года наведаў месца растрэлу габрэяў у Варабьёвых гарах і пабачыў яго занядбаны стан, то думаў што гэта таму што месца знаходзіцца ў глыбіні Варабьёвых гор і савецкія людзі там -- габрэі. Але бачыць недагледжанае гістарычнае месца на самым пачатку Варабьвых гор было нечаканасцю. Бо столькі слоў льецца з дзяржаўных СМІ аб ушанаванні гісторыі Вялікай Айчынай вайны, падзей з ёй звязаных. А тут такое запусценне, дзе даўно не было гаспадарскага нагляду.

Але гэта не стала такім дзіўным, калі вывучыўшы спіс 49 аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны Гарадоцкага раёна сярод вайсковых могілак, брацкіх пахаванняў і гарадзішчаў з курганнымі могільнікамі не знайшоў помніка ахвярам фашызму ў Варабьёвых гарах. Гэты мемарыял, які падобны на вядомую Хатынь, аказваецца не мае ніякага гісторыка-культурнага значэння для кіраўніцтва Гарадоцкага раёна. І гэта пры тым, што яшчэ жывы людзі, якія гэты мемарыял стваралі.

Між тым безумоўна мемарыял мае гістарычнае значэнне. Айчынай вайна вогненым колам пракацілася па 183 (!)вёсках гарадоцкага края. 13 вёсак былі поўнасцю знішчаны з жыхарамі і не адноўлены пасля вайны, яшчэ 13 знішчаных вёсак былі адноўлены пасля Айчынай вайны. У 23 населеных пунктах края дамы былі знішчаны з часткай насельніцтва і таксама не адноўлены пасля вайны, а 135 спаленых фашыстамі вёсак сваё жыццё ў пасляваенны час аднавілі.

Пра гэта магчыма даведацца ў кнізе "Нацысткая палітыка генацыда і выпаленай зямлі на Беларусі", якая была выдадзена да 40-годдзя вызвалення нашай Бацькаўшчыны, і гэтыя даныя прыведзены ў кнізе "Памяць" Гарадоцкага раёна.

Менавіта гэтай трагічнай старонцы нашага краю і прысвечаны мемарыял у Вараб'ях. На мемарыяльных плітах нанесены назвы 26 вёсак спаленых разам з жыхарамі , а таксама маецца мапа раёна з гэтымі вёскамі.

І як заклік да ўладаў, да ўсіх нас чытаюцца ў цэнтры мемарыяла словы з "Рэквіема": "Людзі! Пакуль сэрца стукаюцца, - памятайце! Якою цаной заваявана шчасце, - калі ласка, памятайце!"

І пра гэтую трагічную старонку з нашай гісторыі трэба памятаць. Гэтую памяць перадаваць моладзі. Перадаваць праз дагляд мемарыяла. Перадаваць праз правядзенне урокаў памяці на ўскрайку Варабьёвых гор. Перадаваць праз уключэнне гэтага памятнага месца ў турыскія маршруты. А справа дайшла да сапраўднага фарса, што ў буклеце пра "брэнд" раёна – Варабьёвы горы няма ніякай згадкі пра гэты мемарыял.

**Леанід Гаравы**

"ДАЖЫНКІ – 2014"

# ЗА ДЗЕСЯЦЬ ДЗЁН ДА "ДАЖЫНАК"

**Прапануем увазе чытачоў нататку аб становішчы і працы на вуліцы, якую ўлады абяцалі зрабіць непазнавальнай да "Дажынак" – вуліцы Гагарына**

Праз дзесяць дзён – 26 верасня – ў Гарадку павінна распачацца трохдзённае святкаванне абласных "Дажынак-2014". Старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Косінец абяцаў зрабіць вуліцу Гагарына непазванавальнай да "Дажынак". У першапачатковых планах была рэканструкцыя гатэля, які ў народзе называлі "Раўбічы", будаўніцтва басейна, стадыёна, тэнеснага корта, які зімой будзе лядовай пляцоўкай, добраўпарадкаванне вуліцы і прылеглай тэрыторыі. Сустракаючыся 1 верасня з бацькамі ў СШ №1 Аляксандр Косінец дадаў да гэтых даброт аў яшчэ лядовую арэну, якая будзе пабудавана ў Гарадку пасля "Дажынак".

Праца зараз на фінішнай прамой і непасрэдна перад 26 будзе бачна, як гатова Гагарына да "Дажынак". Зменяў сваё аблічча гатэль на Гагарына і варта яму надаць добрую назву, якая будзе адпавядаць імкненню ўладаў стварыць у Гарадку другі зімовы спартыўны цэнтр Беларусі. Але відавочна, што басейн каля гатэля будуць завяршаць пасля "Дажынак", бо зараз толькі робяць каркас гэтага будынка. Стадыёнам на Гагарына таксама няма каму займацца, як і тэнесным кортам. Гэта пакуль застаецца, як кажуць, заданнем на заўтра.

Працы ж па дабраўпарадкаванню дарогі Р-114 і дваровых тэрыторый на Гагарына распачаліся напачатку жніўня пасля візіта ў Гарадок старшыні Савета Міністраў Міхаіла Мясніковіча. І што мясцовыя ўлады не маглі зрабіць за некалькі дзесяцігоддзяў прысланыя дарожнікі зрабілі амаль за паўтара месяца: добраўпарадкавалі амаль усе прыдамавыя тэрыторыі, устанавілі ў мікрараёне з кіламетр бардзюраў, паклалі новы асфальт на пешаходнай дарожцы. Пачалі ліквідаваць легендарную яму каля аўтобуснага прыпынку. За выхадныя дні навазілі столькі зямлі для закрыцця прыдарожнай ямы, што перакрылі з суботы палову дарогі Р-114.

Зараз кожны дзень нясе адчувальныя змены ў мікрараёне. У дварах мікрараёна ўстанавілі новае абсталяванне на дзіцячыя пляцоўкі. Але застаецца добраўпарадкаваць прыдамавую тэрыторыю, як каля дома №30.

Будаўнікі ўпершыню пачалі працаваць і ў нядзелю. У дварах на Гагарына сканцэнтравана вялікая колькасць аўтатэхнікі, якая гатова рушыць у патрэбным накірунку. Магчыма яе жадалі бы бачыць і ў іншых кропках Віцебшчыны, але сёння "Дажынкі-2014" – будоўля №1 на Віцебшчыне. Для будаўнікоў часова абсталявалі і намёты на беразе вадаёма каля гатэля.

Цяпер час пакажа, што яшчэ будзе дабудавана на Гагарына пасля "Дажынак" і якой якасці такое імклівае добраўпарадкаванне. Найбольшыя ж праблемы добраўпарадкаванне прынясло жыхарам дамоў 14-20, якія сустрэлі працяглыя жнівеньскія дажджы з сапсаванымі дахамі. Складзены дзесяткі актаў на падтапленне кватэр жыхароў з Гагарына. Рамонт падтопленых кватэр і пад'ездаў будаўнікі абяцаюць правесці пасля "Дажынак".

**Л. Антонаў**

СПАРТЫЎНЫ АБ'ЕКТ

# ТРАСУ ПАЧАЛІ БУДАВАЦЬ БЕЗ ТЭНДЭРА

**Віцебскі аблвыканкам аб'явіў тэндэр на выбар падрадчыка для будаўніцтва лыжаролернай трасы ў Гарадку з пачаткам працы з верасня. Але ўжо амаль месяц будаўніцтва трасы вядзецца ўдарнымі тэмпамі без правядзення гэтага тэндэра**

На сёння самым ударным аб'ектам "Дажынак" у Гарадку стала будаўніцтва лыжаролернай трасы ў Варабьёвых гарах, частка якіх размешчана ў межах райцэнтра з 2007 года. Толькі на гэтым аб'екце ў апошні дзень лета 31 жніўня працавалі дзесяткі адзінак дарожнай тэхнікі ад дарожна-будаўнічых прадпрыемстваў Віцебшчыны пры зацішшы будоўлі на цэнтральных вуліцах Гарадка.

Дарожнікаў не было бачна ў нядзелю на неадрамантаваных вуліцах цэнтра горада: ні на Ленінскай, ні на Чырвонаармейскай, ні на Гагарына. Але дарожнікі нягледзячы на амаль няспынны дождж актыўна працавалі на Камсамольскай і ў Варабьёвых гарах.

У Варабьёвых гарах будоўля не спыняецца ні на дзень. Каля спуска да возера Лугавое ўжо амаль абсталявана новая паркоўка, а таксама нарыхтаваны сотні тон жвіра для будаўніцтва лыжаролернай трасы.

Дзесяткі адзінак дарожнабудаўнічай тэхнікі: МАЗы, пагрузчыкі, асфальта-ўкладчыкі працуюць на аб'екце, дзе праца павінна распачацца толькі з верасня месяца. За месяц няспыннай працы ўжо адсыпана дарога да возера Лугавое і пачалося яе асфальтаванне. Усяго да чэрвеня 2015 году на аб'еце павінна быць выканана працы на суму ў 26 342 168 800 рублёў.

Таксама на гэтым аб'екце ўжо вырублены дзесяткі кубаметраў карыснага лесу, які рос у межах горада. І гэта адбылося без грамадскага абмеркавання, магчыма і без удзелу мясцовых прыродаахоўных органаў. Відавочна за будаўніцтвам дадзенай лыжаролернай трасы стаяць інтарэсы вышэйшыя за мясцовую ўладу.

**Леанід Гаравы**

*Ад рэдакцыі: У верасні праца па будаўніцтву лыжаролернай трасы яшчэ больш актывізавалася: асобныя адзінкі тэхнікі ў другі тыдзень месяца працавалі і ноччу.*

ВЫРАШЫЦЬ ПРАБЛЕМУ!..

# ГАРАДОК БЕЗ ГРАМАДСКАЙ ПРЫБІРАЛЬНІ

**Сярод амаль 200 аб'ектаў, якія рамантуюцца і ствараюцца да "Дажынак", не знайшлося месца ні для воднай грамадскай прыбіральні райцэнтра.**

На сёняшні час пытанне грамадскіх прыбірален мае сусветнае гучанне. У 2001 годзе была заснавана Сусветная туалетная арганізацыя, а дзень яе заснавання 19 лістапада лічыцца Міжнародным днём прыбіральні. Заснавальнік і прэзідэнт Сусветнай туалетнай арганізацыі Джэк Сім лічыць: "Права на прыбіральню з'яўляецца адным з самых базавых правоў чалавека, мабыць, нават больш важным, чым права на свабоду слова".

Беларусь не ўваходзіць у гэтую арганізацыю і турысты з цывілізаваных краін усё яшчэ здзіўляюцца стану нашых прыбірален.

Па існуючых "Санітарных правілах абсталявання і ўтрымання грамадскіх прыбірален", зацверджаных яшчэ ў 80-х гадах мінулага стагоддзя,радыусабслугоўвання грамадскіх прыбіральняў у гарадах, аказваецца, не павінен перавышаць 500- 700 метраў; нарматыў - 1 унітаз на 500 чалавек. Падобныя ўстановы і падыходы да іх павінны быць абсталяваныя адмысловымі паказальнікамі, прыкметнымі днём і ноччу.

Акрамя гэтага, згодна з правіламі, грамадскія прыбіральні належыць абсталяваць кручкамі для верхняга адзення, паліцамі для асабістых рэчаў, туалетнай паперай, электрарушнікамі, мылам ... Так, цалкам адпаведных нормам прыбірален трэба пашукаць ...

Як паказваюць падлікі Мінгарвыканкама, колькасць прыбіральняў у беларускай сталіцы складае толькі 26% ад неабходнага мінімуму. Што тут казаць пра нашы райцэнтры.

Але Гарадок зараз імкнецца набыць цывілізаваны выгляд і гэту праблему трэба вырашаць, бо госці Гарадка будуць здзіўлены, што ў райцэнтры няма ніводнай грамадскай прыбіральні. Канешне пад час свята арганізатары выставяць перасоўныя прыбіральні, якія кепска пахнуць і часова праблема вырашыцца. Але ж…

Да апошняга часу ў Гарадку была адна бясплатная прымітыўная прыбіральня даступная жыхарам і гасцям райцэнтры – каля аўтастанцыі. Толькі яе ліквідавалі пры рэканструкцыі аўтастанцыі. Значна раней існавала прыбіральня каля кінатэатра "Радзіма", але гадоў 20 назад прыйшла ў аварыйны стан, які захаваўся да сёняшняга часу. Яшчэ была прыбіральня на старым кірмашы, якая выклікала крытыку сваім кепскім становішчам усе апошнія гада да часу сваёй ліквідацыі ў мінулым месяцы.

На сёння кірмаш і аўтастанцыя змянілі сваё аблічча, але праблема права на прыбіральню засталася па ранейшаму вострай. Пры афіцыйным адкрыцці аўтастанцыі платныя прыбіральні на аўтастанцыі не былі адкрыты. І пасажыры ў нядзелю шукалі прыбіральні ў ваколіцах аўтастанцыі. Адны справлялі патрэбу ў кутках каля аўтастанцыі, а другія траплялі на новы кірмаш.

Толькі на кірмашы на Ўзгор'е таксама шчэ няма цывільнай прыбіральні. Тут гандляры і пакупнікі могуць спраўляць свае патрэбы толькі ў дзвюх перасоўных прыбіральнях.

Вельмі сумнеўна, што ўлады за час да "Дажынак" пабудуюць першую грамадскую прыбіральню ў Гарадку. Таксама сумнеўна, што ў райцэнтры з'явяцца для гасцей указальнікі на месцы знаходжання WC у дзяржаўных установах.

**Л. Антонаў**

НУ І НУ!...

# РЫНАК НОВЫ– ПРАБЛЕМА СТАРАЯ

**Восеньскія дажджы, якія апошнім часам моцна ідуць на Гарадоччыне, выявілі першую праблему новага рынка – адсутнасць ліўнёўкі.**

Адной з праблемаў старога рынка была кепская ліўневая сістэма, якая прыводзіла да затаплення рынка па вул. Валадарская пад час дажджоў. Мясцовыя ўлады пераконвалі грамадзян і чытачоў раёнкі ў тым, што гэта праблема на новым рынку будзе вырашана. Але першыя дажджы адразу паставілі "нездавальняюча" кіраўніцтву райспажыўсаюза па стварэнню ліўневай сістэмы на новым рынку па вул. Узгор'е. Дакладней, не па стварэнню леўнёўкі, а поўнай яе адсутнасці на трэцім раду. Калі першыя два рады маюць дах і не церпяць ад дажджоў, то па трэцяму раду магчыма "плыць" і на гумавай лодцы.

Відавочна, што ад гэтай бесталковасці церпяць, як пакупнікі, так і гандляры, якія ўжо на палову выкарыстоўваюць трэцці рад. За дзесяцігоддзе на старым рынку не маглі вырашыць праблему ліўнёўкі. Паглядзім колькі часу спатрэбіцца зараз кіраўніцтву райспажыўсаюза, каб вырашыць гэту праблему на новым рынку. Пры пастанным падтапленні гандлёвых месцаў дажджавой вадой нияк не выпадае называць гэты рынак – сучасным. Хутчэй падыходзіць назва – "зроблены цяп-ляп".

**Л. Антонаў**

НАВІНЫ ФУТБОЛА

# "… МЫ ЯШЧЭ ДРОЎ НАЛОМІМ."

**Гарадоцкі "Прамень" 14 верасня ў гасцях у Воршы сакрушальна перамог мясцовы "Экамол": 6-0.**

ФК "Прамень" спыніў безвыніковую серыю матчаў вялікай перамогай над ФК "Экамол" (Ворша). Аршанская каманда, якая яшчэ некалькі тураў назад узначальвала першынство вобласці ў першай лізе, нічога не здолела супрацьпаставіць тактыцы нашай каманды: навязаць барацьбу ў сярэдзіне поле і вострa кантраатакаваць. Гэты план выдатна спрацаваў у другім тайме, калі гаспадары імкнуліся зраўняць лік, але не паспявалі за нашымі гульцамі пры кантраатаках. У другім тайме "Прамень" правёў аж пяць выніковых кантраатак.

Асабліва ўразіла гульня Яўгена Самарына, які зрабіў хет-трык на полі гаспадароў. Трэнер каманды Сяргей Куракоў так пракаментаваў гульню на старонцы клуба: "Вынік ўражвае! Перайгралі моцнага суперніка тактычна: гуляючы ў аднаго нападніка, ўзмацнілі цэнтр поля, дзе ў гаспадароў найбольш моцныя гульцы, аддалі ініцыятыву і дзейнічалі на контратаках. У першым тайме атрымлівалася не вельмі, але выстаялі ў абароне і забілі. Ну а другі тайм проста шэдэўр, супернік папёр на нас, раскрыўся і пачаў атрымліваць у адказ дзейсныя контратакі. А Жэня Самарын проста звер, усе яго галы з-за штрафной, а другі гол- гэта шалёны ўдар метраў з 35 у далёкую дзявятку, увесь стадыён быў у шоку! З такой камандай мы яшчэ дроў наломім."(http://vk.com/luch_gorogok)

Пасля дзевяці матчаў у "Праменя" стала 11 ачкоў, як і ў наступнага саперніка – ФК "Полацкгаз", з якім гарадоцкая каманда сустрэнецца 20 верасня на сваім полі. Гэты матч будзе вырашальным для вызначэння здольнасці каманды пазмагацца за прызавое месца ў першай лізе, бо на сёння ад трэццяга месца каманду аддзяляюць шэсць ачкоў.

Склад каманды на гульні з ФК "Экамол": Палавінскі; Лянічы, Дашкевіч, Самсоненка (Бакевіч), Крываносаў, Галуза, Шыла (Андрэйчанка), Жогаў, Васільеў (Рудоў), Самарын, Жарнасек.

Галы: Самарын-3, Васільеў, Жогаў, Жарнасек. Галявыя: Васільеў, Жогаў-2, Жарнасек.

**Л. Антонаў**

МЯСЦОВЫ БІЗНЕС

# НОВЫЯ КРОПКІ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ

**Да Дажынак у Гарадку ў сувязі з закрыццём кірмаша і добраўпарадкаваннем тэрыторыі каля крамы "Вішера" змяніліся працоўныя месцы прадпрымальнікаў.**

Закрыццё старага кірмаша па вуліцы Валадарская, ліквідацыя крамы "Хлебны" і павільёнаў каля яе вымусіла прадпрымальнікаў шукаць новыя месцы для сваёй дзейнасці.

Прадпрымальнік Аляксандр Ляхновіч, які гандлюе аўтазапчасткамі і расходнымі матэрыяламі для аўтамашын, адкрыў сваю краму "Аўтасвет" па вул. Невельская шаша 18 каля былога харчовага камбіната.

Побач з крамай аўтазапчастак размясцілася крама "Буд+", дзе гандлююць рознымі будаўнічымі матэрыяламі і тэхнікай для будаўнічых і іншых прац.

Прыватны фатаграф Віктар Пісарык вымушаны часова пераехаць у павільён, які месціцца на вуліцы Чырвонаармейская на месцы былой "Сняжынкі". У далейшым прадпрымальнік pазлічвае пабудаваць уласны павільён для аказання сацыяльна значных паслуг насельніцтву. Па нашай інфармацыі ў гэтым жа месцы на вул. Чырвонаармеская будзе размяшчацца гандлёвы павільён "Прычал", які ласкава папрасілі закрыць на вул. Савецкая каля цэнтральнай плошчы. Дарэчы ў павільёне, дзе зараз размяшчаецца фотастудыя плануецца весці гандаль мэбляй.

Побач з павільёнам фатографа у будынку былога музея размясціліся памяшканні ПГУП "Лукманавіч", дзе аказваюцца паслугі цырульнікаў, па рамонту абутку, рытуальныя паслугі. Фактычна праз пэўны час у гэтым месцыпавул.Чырвонаармейская будзе невялікі цэнтр прадпрымальніцкай актыўнасці.

З гандлёвых месцаў старога кірмаша каля крамы "Вішера" застаўся толькі павільён, дзе гандлююць садавінай і гароднінай. Была ралет хутка перабудавалі пад краму "Апельсін".

Саму ж краму "Вішера" гаспадары адрамантавалі яшчэ напрыканцы вясны, а таксама ўсталявалі каля крамы тры месцы для паркоўкі веласіпедаў. Гэтыя месцы пазітыўна вылучаюць краму сярод іншых крам Гарадка, дзе няма месцаў для паркоўкі веласіпедаў.

**Л. Антонаў**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размяшчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

НАША СПАДЧЫНА

# 500-ГОДДЗЕ АРШАНСКАЙ БІТВЫ

**Пра значнасьць гэтай бітвы ў гісторыі і яе працяг у сучаснасьці мы гутарым зь пісьменьнікам, аўтарам гістарычных раманаў Леанідам Дайнэкам.**

Напярэдадні 500-х угодкаў Аршанскай бітвы стала вядома, што Аршанскі райвыканкам забараніў імпрэзу з гэтай нагоды на гістарычным Крапівенскім полі.

**— Спадар Леанід, ці было для вас нечаканасьцю рашэньне аршанскіх уладаў?**

— Шчыра кажучы, не. Я нават дапускаю, што некаторыя нашы сёньняшнія чыноўнікі ў той бітве былі б не пад сьцягам Канстанціна Астроскага, а пад сьцягам маскоўскага ваяводы Івана Чалядніна. Справа ў тым, што наша дзяржава і яе палітыка, у тым ліку і культурная, знаходзяцца ў магнітным полі Расеі. Дык як жа яны будуць праслаўляць тую бітву, у якой былі разьбітыя продкі іхных гаспадароў? Я быў упэўнены, што забароняць, але не чакаў, што так катэгарычна. Можна ж было б прапусьціць купку людзей на Крапівенскае поле, каб пачыталі вершы, каб гурт «Стары Ольса» пасьпяваў песьні. Было б цудоўна.

Каму гэта перашкаджала? Каму гэта выклік? Мы ж ня ворагі расейскаму народу. Мы ворагі захопнікам, якія прыходзілі на нашу зямлю. У свой час Гітлер абтрэльваў фаўстамі Лёндан. Дык што, англічане ворагі немцам? Не. Так і мы — разьбілі прышлых ворагаў. І правільна зрабілі, паколькі баранілі свой дом, сваю зямлю, сваю дзяржаву. А дзяржавай нашай на той час было ВКЛ, мы былі грамадзянамі і воінамі гэтай дзяржавы. Дарэчы, я зайважыў такую акалічнасьць: слова Ворша паходзіць ад ангельскага слова war — вайна. Вось такое супадзеньне.

**— Бітва пад Воршай апісваецца ў вашым рамане «Назаві сына Канстанцінам». Войска ВКЛ было колькасна меншым, але мела артылерыю. Чаму маскоўцы прыйшлі на Крапівенскае поле без гарматаў?**

— З-за самаўпэўненасьці сваёй. Яны пакінулі артылерыю ў Смаленску і хуценька рынуліся на безабароннае, як яны думалі, ВКЛ. Маскоўцам хацелася як мага хутчэй рабаваць, забіраць у палон цяглых мужыкоў, маёмасьць. Вядома ж, адсутнасьць артылерыі сыграла сваю ролю. У вырашальны момант Канстанцін Астроскі якраз выставіў сваю артылерыю, якая ўшчэнт зрэзала маскоўскую коньніцу.

Тут праявіўся ваенны талент Астроскага, які спачатку зрабіў выгляд што адступае, і маскоўцы, ашалеўшы ад нечаканай перамогі, парушылі свае баявыя парадкі і рынуліся ў наступ. А войска ВКЛ расступілася, і баярская коньніца Масквы апынулася проста перад жэрламі гарматаў, перад мушкетамі. І пачалі дагэтуль непераможныя маскоўцы ўцякаць — хто як мог ратаваўся. Усё поле было завалена трупамі, вада ў рэчцы стала чырвонай. Загінулі каля 40 тысячаў маскоўцаў, 5 тысячаў трапілі ў палон, у тым ліку галоўны ваявода Чалятнін, яшчэ 8 ваяводаў, 17 ваеначальнікаў высокага рангу, 2000 дзяцей баярскіх. А пераможцам, воінам Канстанціна Астроскага, раздалі 20 000 трафейных маскоўскіх коней. І яны горда паехалі дадому на тых конях.

**— Бітва пад Воршай нечаму навучыла Маскву?**

— На жаль, не навучыла. Вядома, расейцаў шмат, яны абʼяднаныя нейкай царысцкай ідэяй, што ў іх наверсе толькі адзін чалавек сядзіць, а ўсе — пад ім. Яны заўсёды атакавалі нашы землі. Яны пашыраліся на ўсход, дайшлі да Ціхага акіяну. Яны хацелі прарвацца ў Эўропу, шукалі шляхі да Балтыйскага мора — Іван Жахлівы вёў тысячы і тысячы сваіх людзей, але ўсе загінулі і не прабіліся. І сёньняшні прыклад з Украінай — тое самае. Пяцьсот гадоў таму беларусы і ўкраінцы ўваходзілі ў адну дзяржаву — ВКЛ, тады мы ўсе былі ліцьвінамі.

Тады Масква ішла вайной на беларускія землі, а сёньня — на Данбас, на Ўкраіну — нашу сястру ў ВКЛ. Маскоўцы неўспрымальныя да ўрокаў гісторыі. Хоць у іхнага арла дзьве галавы, але глядзяць яны не туды. Я сам гадоў сем жыў у Расеі. Расейскі народ вельмі добры і шчыры, ён можа і папрацаваць, і чарку выпіць, і пасьпяваць. Але на іх прапаганда ўзьдзейнічае. Глядзіце, фільмы ў іх толькі пра нейкіх суперагентаў, якія адным ударам трох зьбіваюць з ног, страляюць зь дзьвюх рук, жанчыны таксама. Хутка ўжо і дзеці будуць камісарамі Мэгрэ ў іхных фільмах.

**— Ва Ўкраіне ўгодкі Бітвы пад Воршай будуць адзначацца з размахам — ажно ў пяці гарадах. І апошняе пытаньне. Расея абвесьціла нацыянальным сьвятам дзень 4 лістапада, калі ў 1612 годзе Масква здолела адбіцца ад войска Рэчы Паспалітай, куды ўваходзілі і беларускія землі. Беларусь магла б зрабіць сымэтрычны адказ — абвесьціць нацыянальным сьвятам 8 верасьня. Быў бы выйгрышны ход — нават для сёньняшніх уладаў.**

— Ход быў бы выйгрышны, але, на жаль, беларускім уладам ён непатрэбен. Пакуль што Дзень беларускай вайсковай славы дзяржаву не цікавіць. А мы памятаем, як у 90-я гады Згуртаваньне беларускіх вайскоўцаў яго адзначала. Як на плошчы прымалі прысягу на вернасьць Беларусі пад бел-чырвона-белым сьцягам 3000 шэрагоўцаў і 600 афіцэраў. Думаю, што рэха Аршанскай бітвы будзе гучаць у сэрцах маладых людзей. Пішучы свае гістарычныя раманы, я хачу, каб мы не забывалі пра тыя далёкія часы, калі наш народ сяліўся, станавіўся на ногі каля Дняпра, каля Рубона-Дзьвіны, каля Нёману — у цэнтры Эўропы. І нам трэба ведаць сваё гераічнае мінулае. Я веру, што дзень 8 верасьня будзе ў будучыні абвешчаны дзяржаўным сьвятам Рэспублікі Беларусь.

*(скарочана)*

**Гутарыў Міхась Скобла**
**svaboda.org**

ПАДАТКААБКЛАДАННЕ

# «ВЯЛІКАЯ СЯМ'Я» АБЕРНЕЦЦА ВЯЛІКІМ РАЗВОДАМ…

**Урад Беларусі ўсур'ёз мае намер павысіць з 2015 года падаходны падатак - на адзін працэнт (да 13%). Пры гэтым прыкрываецца клопатам аб дзецях і павышэнні нараджальнасці: дадатковыя сродкі нібыта пойдуць на праект «Вялікая сям'я». На справе ж такім чынам спрабуюць проста латаць дзіркі ў бюджэце.**

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка лічыць магчымым падняць стаўку падаходнага падатку да 13%, накіраваўшы дадатковыя сродкі на падтрымку сем'яў з дзецьмі ў рамках праекта «Вялікая сям'я». «Не разумею, хто тут можа абурацца: гэта ж для твайго дзіцяці! ... Але калі ў цябе адзін - прабач. Хто хоча што-то ад гэтага адсотка атрымаць, хай траіх нараджае », - тлумачыў кіраўнік дзяржавы на спецыяльнай нарадзе 21 жніўня.

Верагодна, рашэнне аб павелічэнні падаходнага падатку з 12 да 13% ужо ўзгоднена на ўсіх узроўнях. Як пра амаль ужо вырашанае пытанне казаў пра гэта ў інтэрв'ю тэлепраграме «Галоўны эфір» канала «Беларусь 1» і віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік.

Праект «Вялікая сям'я» разлічаны на пяць гадоў. У рамках праграмы прапануецца пры нараджэнні трэцяга і наступных дзяцей налічваць 10 тысяч даляраў на дэпазітны рахунак. Выкарыстанне гэтых сродкаў будзе магчымым па дасягненні дзіцем 18 гадоў - іх можна будзе накіраваць на паляпшэнне жыллёвых умоў, адукацыя, паслугі аховы здароўя і фарміраванне дадатковай пенсіі маці. Сума будзе ўлічвацца ў валюце і штогод індэксавацца на ўзровень інфляцыі долара, таму з улікам штогадовай індэксацыі праз 18 гадоў сям'я атрымае арыентыровачна 14 тысяч"зялёных".Да спаўнення дзіцяці 18 гадоў грошы могуць быць выкарыстаны толькі ў надзвычайным выпадку - для аказання складанай медыцынскай дапамогі любому члену сям'і.

Але адкуль браць сродкі на такі праект? Тозік патлумачыў: "Нічога з нічога не бывае. Гэта велізарныя грошы, якія патрэбныя сёння для падтрымкі сем'яў, для падтрымкі дзяцей. Частка ў нас ёсць у бюджэце, а частка, хутчэй за ўсё, што будзе прынята рашэнне аб тым, каб усталяваць для ўсіх норму падаходнага падатку ў 13%. Усе гэтыя грошы, як падкрэсліў прэзідэнт, да аднаго рубля, будуць сыходзіць толькі на гэтыя мэты ».

Урад прапануе пачаць праект 1 студзеня 2015 г.. Крыніцай яго фінансавання стануць сродкі фонду нацыянальнага развіцця, якія ацэньваюцца ў 1,8 трлн. рублёў штогод. За перыяд дзеяння праекта будзе выдаткавана каля 700-800 мільёнаў даляраў. А каб праект быў акупным, сродкі, залічаныя на дэпазітны рахунак маці ў ААТ «АСБ Беларусбанк», перададуць у кіраванне Банку развіцця, які будзе ўкладаць іх у эканоміку.

Эксперты называюць ўтапічнай саму ідэя, што сем'і стануць заводзіць больш дзяцей толькі таму, што па дасягненні адным з іх 18 гадоў на рахунку ў маці будзе сума каля 14 тысяч даляраў. Бо выдаткі на выхаванне дзіцяці сям'і прыйдзецца несці на працягу ўсіх гэтых 18 гадоў, і выдаткі на гэта будуць несувымерна больш атрыманай потым сумы. Ствараецца ўражанне, што «Вялікая сям'я» з'яўляецца толькі прыкрыццём для папаўнення бюджэту і перакладання грошай з адной дзяржаўнай кішэні ў другую з невядомай для шырокай грамадскасці мэтай.

Намеснік старшыні Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі (БНПА) Георгій Грыц прызнае ўсю вастрыню праблемы напаўнення бюджэту: «Бюджэтных крыніц для выканання бягучых дзяржаўных праграм і задач не хапае. Гаворка ідзе пра адсутнасць трыльёнаў беларускіх рублёў ». У такой сітуацыі, кажа ён, да павелічэння падаходнага падатку неабходна ставіцца як да дадзенасці. У адваротным выпадку з дэфіцытам бюджэту прыйдзецца спраўляцца праз знешнія запазычанні, што ў цяперашніх умовах няпроста, ці нават праводзіць дэвальвацыю.

У той жа час Грыц прагназуе негатыўную рэакцыю з боку бізнесу, на якім «павелічэнне любых падаткаў адбіваецца дрэнна». Ён таксама звяртае ўвагу на тое, што сам механізм павышэння падатку супярэчыць дырэктыве прэзідэнта №4 «Аб развіцці прадпрымальніцкай ініцыятывы і стымуляванні дзелавой актыўнасці ў Рэспубліцы Беларусь». Бо там вызначана, што нарматыўныя прававыя акты, якія змяняюць умовы вядзення бізнесу, павінны ўваходзіць у дзеянне не раней чым праз тры месяцы з дня іх афіцыйнага апублікавання і павінны загадзя абмяркоўвацца ў бізнес-супольнасці.

Згодна з разлікамі экспертаў праекта «Коштурада», у выніку павышэння падаходнага падатку і акцызаў кожны які працуе беларус у сярэднім заплаціць у 2015 годзе ў бюджэт дадаткова каля 1.165.000 беларускіх рублёў (116 даляраў ЗША). Усяго ж будзе сабрана «звыш» каля 5,3 трыльёна рублёў (каля 514млн. даляраў), у тым ліку толькі за кошт павышэння падаходнага падатку - 2, 5 трыльёна (прыкладна 242 мільёны даляраў). За пяць гадоў гэта складзе больш за 1,2 мільярда даляраў. А на праект «Вялікая сям'я», якім і апраўдваецца павышэнне падаходнага падатку, плануюць накіраваць у гэты перыяд 700- 800 мільёнаў. Гэта значыць, нават калі дзяржава выканае гэта сваё абяцанне, то атрымае «чысты прыбытак» у памеры 400-500 мільёнаў даляраў.

Паводле дадзеных эканамічнага агляду Нацыянальнага банка, у першай палове 2014 працягвалася зніжэнне паказчыкаў чыстага прыбытку і прыбытку да падаткаабкладання ў эканоміцы. «Праблема гэтая не новая, і істотнае зніжэнне прыбытку ў прадпрыемстваў пачалося яшчэ ў 2013-м годзе, што прывяло да зніжэння паступленняў па падатку на прыбытак. Гэта значыць, што зніжаецца эфектыўнасць працы бізнесу з прычыны палітыкі, якая праводзіцца нашым урадам. У выніку з'яўляецца праблема з напаўненнем бюджэту, якую ўрад і спрабуе неяк вырашаць », - тлумачыць эксперт.

Ну а самы лёгкі спосаб - залезці ў кішэню суграмадзян. Што мы зараз і назіраем.

*(скарочана)*

**Алена Спасюк**
**"БЕЛАПАН"**

РУСКАЯ КУЛЬТУРА

# «… ИСКОННО РУССКОЕ — ЭТО ПИТЬ, РУБИТЬ ГОЛОВЫ И БРАТЬ ВЗЯТКИ»

**Юлия Латынина ищет ответ на вопрос, что же такое — эта особая «русская культура».**

Уже полгода, как со времени победы Майдана российские официальные власти, депутаты и телекомментаторы открыли существование особой «русской культуры», которая противостоит европейской бездуховности. Ничего нового они, собственно, не выдумали. Еще Гитлер в «Майн Кампф» противопоставлял суровую нордическую культуру текущему европейскому разврату и бездуховности. Это обычный прием фашизма: под предлогом освобождения нации от «чуждой культуры» освободить ее от всякой культуры вообще и погрузить во времена и привычки варварства.

В связи с этим: что же такое эта особая «русская культура»? Русская культура, бесспорно, существует, и она дала миру великие образцы музыки, поэзии и литературы. Проблема заключается в то, что русская культура стала великой, когда Россия стала Европой.

Чайковский родился не из балалайки, и Пушкин родился из Царскосельского Лицея, а не из сказок Арины Родионовны. Если бы культурный багаж Пушкина состоял из сказок Арины Родионовны, то его, Пушкина, не было бы. Собственно, его не было бы вообще, потому что не было бы его предка — арапа Петра Великого.

Русская культура стала великой, когда вся она — и русская наука, и русская литература, и русские музыка и живопись, от Ломоносова до Ландау, от Пушкина до Толстого, от Брюллова до Мусоргского, — стала частью западной культуры.

Более того: если бы Петр I не сделал Россию частью европейского мира, то не было бы не только Толстого — Тургенева. Не было бы и столь любимой нашими патриотами Российской империи. Ее бы просто не существовало.

Московская Русь с ее домостроем, ксенофобией, технической отсталостью и, кстати, повальным гомосексуализмом, шокировавшим западных наблюдателей, заняла бы на геополитической карте мира примерно то же положение, что древняя и отсталая Персия.

Нашим патриотам не пришлось бы стенать об утрате Украины: Украина была бы частью Большой Польши или Великой Литвы. Нашим патриотам не пришлось бы страдать по Крыму: в Крыму бы жил татары; Смоленск бы принадлежал полякам; газовые месторождения в Уренгое разрабатывала бы Великая Швеция, а граница с индустриальной сверхдержавой Японией, в начале XX века ударившейся в поисках природных ресурсов в бурную колонизацию, проходила бы где-нибудь по Уралу.

Именно Петр Великий привил на русский дичок европейский культурный сорт, точнее — перепривил, потому что первая прививка была сделана викингами, но потом татары срубили дерево почти под корень. Так бы и росло оно после татар — с пьянством, с опричниной, с невежеством, с пляской Федьки Басманного перед царем, которому все целуют сапог, пока он рубит головы, и с бесконечной уверенностью невежды и ханжи в собственном превосходстве, если бы не Петр.

После него мы стали носить европейское платье, после него женщины вышли из теремов, после него поэты стали сочинять «оды» и «эпитафии», великосветские хлыщи заговорили о «Венере» и «Бахусе», ученые поехали учиться в западные университеты, и после него родилось в российском дворянстве совершенно неведомое дотоле и центральное для Европы слово «честь». Дворянское слово «честь», в результате которой новые Иваны Грозные — Петр III и Павел I — получили не опричнину, а табакерку в висок.

Мне многое не нравится на современном Западе, и я часто об этом пишу, но я пишу об этом именно потому, что я ощущаю себя частью этого Запада. Пушкин писал оду об Андрее Шенье, а Лермонтов перелагал Гейне, потому что они ощущали себя частью этой культуры. Андрей Шенье был для них меньшей экзотикой, чем завоевываемый Россией исламский Кавказ. И — так же как Пушкин и Лермонтов — это ощущают миллионы наших соотечественников, которые уезжают на Запад и легко там интегрируются. Обратите внимание: русские — не арабы, не африканцы, — это та нация, которая наиболее легко интегрируется в США и в Европе, вы не слышите о русских, сидящих там десятилетиями на велфере и рассматривающих их как пособие на православный джихад.

Конечно, это круто сказать, что мы не «растленный Запад», но если мы не Запад, то кто мы?

Кто больше знаком российскому читателю: прекрасная Елена или Ян Гуйфэй? Кто для нас великий полководец: Ганнибал или Чжугэ Лян? Кто для нас основатель империи: Юлий Цезарь или Цинь Шихуанди? Классическая российская литература ссылается на Геродота или на Сыма Цяня? На «Илиаду» или на «Рамаяну»? Цитирует чаще Библию или Коран? С кем Пушкин сравнивал луну: со щитом варяжским и сыром голландским или с китайским лунным зайцем? Сколько выражений в русском языке — калька с французского, а сколько — с китайского или арабского? В гимназиях в качестве классического языка учили греческий и латынь — или язык Корана, читали «Записки о галльской войне» — или «Ши цзин»?

Да что там гимназии — выйдите на Тверскую и читайте подряд окрестные вывески. «Бар 02 Lounge, The Ritz-Carlton Moscow, Bosco, Эвалар, Инком-Недвижимость, Calzedonia, Балкан-экспресс, BM-estate, Магазин Lonsdale, салон Ортобест, «Трансмегаполис», «Универсалтур», Massimo Dutti, TJ collection, Braccialini, Адамас, Рандеву, Росбанк». Вау! Ни одного «Шивы», ни одного «Бараката», ни одной «Гуаньинь», и даже, что уже совсем удивительно, явный дефицит «Ильи Муромца», «Садко» и «Домостроя».

Посмотрите на наши рекламные щиты (вот уж что не обманывается относительно референтных для сознания символов) — и подсчитайте, чего там больше: отсылок к Западу, к Востоку или к «исконно русской старине»? Я уже долгое время этим занимаюсь, и результаты, доложу вам, удивительные. У нас даже элитные коттеджные поселки предпочитают называть «Гринфилд», «Ричмонд», «Гельвеция». И, кстати, в словосочетании «элитный коттеджный поселок» — сколько «русских», а сколько «западных» слов?

Тут, я думаю, огорченный русский читатель вздохнет и скажет: что ж мы за такие неудачливые, у всех есть культура, и только у нас — заимствованный огрызок. Должна успокоить читателя: это не исключение, а норма. Только три современные развитые нации — евреи, китайцы и индийцы — могут претендовать на тысячелетнюю автохтонность культур. Все остальные — привой, помесь, грязнокровки.

Японская и корейская культура привиты Китаем. Римская культура была заимствованной греческой, а о «европейской» культуре нечего вообще и говорить. Сплошные заимствования. Англия — Европа, но что такое «исконная английская культура»? Культура норманнов-завоевателей? Культура покоренных ими саксов, которые, в свою очередь, отвоевали Англию у кельтов? Культура кельтов, которая к моменту саксонского завоевания была заимствованной римской?..

Еще раз: «исконно русской» культуры не существует, как не существует «исконно прусской», «исконно британской» и даже «исконно европейской культуры». Точно так же как большинство «культурных растений» не существуют в природе и поэтому-то и являются культурными, большинство культур не являются «исконными» и только поэтому являются культурами. Любая современная динамически развивающаяся цивилизация представляет собой пласт многовековых культурных заимствований, а «исконными» культурами», начиная с XIX века, занимаются этнография и антропология. Они есть. У папуасов. Мы, слава богу, не папуасы — хотя нас усиленно пытаются ими сделать.

Под лозунгом «Возврата к великой русской культуре» в стремительно фашизирующемся обществе нам предлагают считать исконно русскими хамство, пьянство и бескультурье. Нам внушают, что исконно русское — это пить, рубить головы и брать взятки. А все остальное, мол, гнилой Запад.

Увы, в жестокости и крови нет ничего «исконно русского». Это просто дикость, которая свойственна в ее истоках любой цивилизации. Генрих VIII рубил головы своим женам, но вряд ли Дэвид Кэмерон сможет сделать то же самое и сослаться при этом на «исконные британские традиции». Все успешные цивилизации проходили через скотство и варварство. Но ни одной успешной цивилизации не придет в голову брать скотство за образец. Это в голову приходит только фашизму.

**Юлия Латынина**
**«Новая газета»**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# КАНГРЭС МОЖА ПРАЙСЦІ ДА КАНЦА ГЭТАГА ГОДА

**Беларуская апазіцыя плануе правесці кангрэс дэмакратычных сіл, на якім вызначыцца са сваім кандыдатам у прэзідэнты, да канца 2014 года, паведаміў БелаПАН намеснік старшыні руху «За Свабоду» Юрый Губарэвіч.**

"Калі перамовы ў верасні завершацца паспяхова, кангрэс магчыма правесці да канца гэтага года ці, у крайнім выпадку, у пачатку 2015 года", — сказаў ён.

Губарэвіч паведаміў, што сёння прайшлі кансультацыі прадстаўнікоў апазіцыйных арганізацый. «Вырашылі ў наступны раз сабрацца 19 верасня. Верагодна, пасля гэтай сустрэчы будуць нейкія зрухі, бо больш-менш відаць, што дасягаецца згода адносна працэдуры вылучэння кандыдата», — адзначыў ён.

У перамовах адносна вылучэння адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад апазіцыі бяруць удзел сем структур: Беларуская партыя левых «Справядлівы свет», Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), рух «За Свабоду», кампанія «Гавары праўду», Аб'яднаная грамадзянская партыя, аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», Партыя БНФ. У сённяшніх кансультацыях не змаглі ўзяць удзел прадстаўнікі сацыял-дэмакратаў і «Справядлівага свету», піша "Наша ніва".

КАРЫКАТУРА




**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 16.09.2014 у 19.10** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна добраахвотнікамі.